ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



DIEVS, SVĒTĪ LATVIJU!

# ГОЛАС БЕЛАРУСА

ЧЭРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ №3-4 1989 г. ≡ ВЫХОДЗІЦЬ З 1925 ГОДА («ЗЬ ПЕРАПЫНКАМ») ≡

ГРАМАДЗКА-КУЛЬТУРНАЕ ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА КУЛЬТУРЫ „СЬВІТАНАК" МЕСТА РЫГА



НАШАЯ ГАЗЭТА — ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА Ў САВЕЦКАЙ ЛАТВІІ. ЛІЧУЧЫСЯ З НАСЬПЕЎШЫМІ ЖЫЦЦЁВЫМІ ПАТРЭБАМІ БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ МЕНШАСЬЦІ, А ТАКСАМА І СА СТАРЫМІ ТРАДЫЦЫЯМІ БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЧАЕ ПРЭСЫ, "ГОЛАС БЕЛАРУСА" СТАВІЦЬ САБЕ МЭТАЮ:

— НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ЎСЬВЕДАМЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МЕНШАСЬЦІ Ў ЛАТВІІ;
— ЗГУРТАВАНЬНЕ ЯЕ НА НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНЫМ ГРУНЬЦЕ;
— АБАРОНУ ІНТАРЭСАЎ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА.

МЫ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЧЫТАЧОЎ ДЫ ІНШЫХ ЗАЦІКАЎЛЕННЫХ АСОБАЎ З ПРАПАНОВАЮ ДАСЫЛАЦЬ МАТАР'ЯЛЫ ХАРАКТАРУ КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКАГА, ПАЛІТЫЧНАГА, ЭКАНАМІЧНАГА, НАВУКОВАГА, ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА, ГУМАРЫСТАЧНАГА, САТЫРЫЧНАГА, А ТАКСАМА АБВЕСТКІ, МАЛЮНКІ, ПЫТАНЬНІ.

МЫ КЛІЧАМО ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ У ЛАТВІІ ДА ЯДНАНЬНЯ, БАДЗЁРАСЬЦІ І ШЧЫРАЙ ПРАЦЫ Ў НАШАЙ СЬВЯТОЙ СПРАВЕ — АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУШЧЫНЫ. ТЫХ, ХТО ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ НЯ ТОЛЬКІ ПА ПАШПАРТУ, ЗАПРАШАЕЦЬ:

-- ЛАТВІЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ "СЬВІТАНАК". (РЫГА, АМАТУ-5, ДОМ КУЛЬТУРЫ ПРАФСАЮЗАЎ)
— РУХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДЗІНСТВА БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ (РЫГА, т. 28-85-23, КУЗЬНЯЦОЎ СЯРЖУК)
-- ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ ЛАТВІІ "ВОЛЯ" (РЫГА, 226048, АЗЕНЕС-22, к. 507а, ПАЎЛОВІЧ ВАДЗІМ)
-- НЯДЗЕЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ (РЫГА, т. 28-95-87, 52-57-62, МІЦКЕВІЧ АЛЁНА ЎЛАДЗІМІРАЎНА).

СПАДЗЯЕМСЯ НА ТОЕ, ШТО СЯРОД ТЫХ 120 ТЫСЯЧАЎ БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ У ЛАТВІІ, ЗНОЙДУЦЦА І САПРАЎДНЫЯ.

## "БЕЛАРУСКІ ПРАЦЭС" У ЛАТВІІ

У ЛатвІІ І па-за межамІ яе многа было гутарак аб працэсу, што адбыўся ў пачатку красавІка 1925 году над васьмІ беларускІмі вучыцелямІ ДзьвІнскае І Люцынскае беларускІх гІмназІяў.

Працэс, якІ цягнууся тры днІ, з 2-га па 4-га красавІка, з ранку да ночы, выклІкаў да сабе вялікую зацІкаўленасьць з боку беларускага грамадзтва І з боку Іншых нацыянальнасьцяў ЛатвІІ.

На Ім яскрава высьвятлІлася як многа ў беларусаў ворагаў, якІя ня спынялІся нІ перад якІмІ спосабамІ І сродкамІ, каб скампрамэнтаваць беларускІ рух у ЛатвІІ І выклІкаць адносна яго рэпрэсІІ Ураду. ВысьветлІлася ў належнай меры І ролю нІжэйшых правІнцыяльных улад тых часоў.

## АБВІНАВАЧАЛЬНЫ АКТ

Робючы рэвІзІю ў беларускай пачатковай школе КапІнскае, у вёсцы ДудалІ, 1924 г. 2-га сакавІка, Інспектар народных школаў ДзьвІнскага вокругу Л. ОзалІнь угледзеў, на гэаграфІчнае карце, якая вІсела на сьценцы, была адзначана Беларусь якая абашла частку абшараў цяперашняе РасеІ, як І Польшчы, ЛІтвы І ЛатвІІ. На карце мяжа ЛатвІІ йшла ад КорсаўкІ на Люцын, Асьвейскае возера, Краслаўку, Улукшты І ад туль у напрамку лІтоўскае мяжы. ІншымІ словамІ кажучы, Беларусь эхапляла часткІ Люцынскага павету, пачынаючы ад КорсаўкІ зь местам Люцынам, частку ДзьвІнскага павету, пачынаючы з Асьвейскага возера зь ДзьвІнскам, І частку Улукштанскага павету зь местам Улукшты.

(працяг на стар.2)

# У ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

## АДКРЫТЫ ЛІСТ РАДЫ ЛАТВІЙСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ «СЬВІТАНАК»

Стан трывожнага прадчуваньня бяды змяшчае ў сабе ёмкае беларускае слова — ЖУДАСЬЦЬ. Перабудова ў краіне ператвараецца ў марудкае і прыгнятальнае чаканне чарговага гістарычнага пленума ці указа. Злачынная сталінская сістэма абрала Беларусь у якасьці выпрабавальнага палігона паскоранай асіміляцыі нацый, якія маршыруюць у камуністычную будучыню. Нашчадкі бацькі крывавага генацыду, асьлепленыя нянавісцю, імкнучыся затаптаць адроджаную нацыянальную самасвядомасць беларускага народа, выдаюць абсурдны указ, які забараняе нацыянальную сімволіку. Беларускія сімвалы нацыянальнай годнасці задушаны і расцярэблены на пачатку калектывізацы., і наўрад ці хто з выдаўцаў указа і яго ідэолагаў — персанальных пенсіянераў НКУС — бачнў у руках"ваяўнічых беларускіх нацыяналістаў" бела-чырвона-белы сцяг і герб"Пагоня" .Гістарычная нацыянальная сімволіка належыць беларускаму народу, і народ мае права сам вызначаць напрамкі сваёй гісторыі, нацыянальнай культуры, сваёй мовы і сімволікі на уласнай зямлі. Вякавы гонар народа, за які беларусы заплацілі мільёнамі чалавечых лёсаў, аўтары указа ацанілі ў 50 рублёў штрафа. Слабавата для нашчадкаў Мураўёва-вешацеля і крывавага ката Сталіна.

Не пройдуць спробы ідэолагаў псеўдаперабудовы пасеяць зерні варожасці паміж беларускім і латышскім народамі. Сотні гадоў жывуць беларусы на адзінай у свеце зямлі латышоў. Латвійская Рэспубліка ў цяжкія для беларускай нацыянальнай культуры гады захавала і ўсімі сіламі падтрымлівала яе вогніва на сваёй дзяржаўнай тэрыторыі Маці-Латвія ў часы фашысцкага генацыда праклялая жменьку вартую жалю, крыважэрных вылюдкаў, прытуліла на сваёй зямлі тысячы дзяцей са спаленых беларускіх вёсак Народы-браты раздзялілі жах масавых дэпартацый.

Мы заяўляем свой пратэст Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Беларусі. Патрабуем спынення праследванняў і ілжывых нападак на удзельнікаў Беларускага Народнага Фронту. Беларускае Культурнае Таварыства "Сьвітанак" аддае свой голас у падтрымку БНФ "АДРАДЖЭННЕ", .праграма якога адпавядае задачам перабудовы, дэмакратыі, дружбы народаў, адраджэння нацыі і вяртання ёй гістарычных і культурных святынь.

БКТ "Сьвітанак" будзе дасылаць ва усе раёны шматпакутнай гістарычнай Радзімы сапраўдную інфармацыю пра дэмакратычныя працэсы ў Латвіі, пра адраджэнне яе народа

У адказ на глумленне нацыянальных святынь, у адпаведнасці з Дэкларацыяй Форума Народаў Латвіі, БКТ"Сьвітанак" пакідае за сабой права гонару за бела-чырвона-белы сцяг і гістарычны герб "Пагоня".

"[Бела]рускі працэс у Латвіі"
працяг са стар. I

По тлумачэньню кіраўніка школы Аляксандра Манкоўскага гэтую карту прыслаў школе Беларускі Прасьветны Аддзел. Такую ж карту Л. Озалін пасьля некалькіх дзён адшукаў у беларускай школе Капінскае воласьці ў вёсцы Станкевічы. Аб знойдзеных картах Л. Озалін далажыў у аддзел пачатковых школаў Міністэрства Прасьветы.

У зьвязку з гэтым палітычнае упраўленьне навяло спраўкі і атрымала весткі, што ў Латвіі працуе беларуская арганізацыя, якая паставіла сабе мэтаю ўтварыць незалежнае беларускае гаспадарства і што правадырамі гэтае арганізацыі зьяўляюцца вучыцялі беларускіх школаў: Ул. Жарці, А. Якубецкі, П. Мядзелька-Грыб і П. Езавітаў, былы шэф вайскова-дыпляматычнае місіі Беларусі, які пасьля яе ліквідаваньня ў кароткі час стаў Латвійскім падданым. Правяраючы гэтыя весткі высьвятлілася, што ў Дзьвінску ўжо з 1921 г. па ініцыятыве К. Езавітава закладзена беларуска-прасьветнае таварыства пад назваю "Бацькаўшчына".

Т-ва "Бацькаўшчына", як гэта бачна з яго статуту рэгістраванага ў Латгальскім Вакружным судзе, мела мэтаю разьвіцьцё беларускае культуры і прасьветы ў Латгаліі.

(працяг у наступным нумары)




# УВАГА!

Тым, хто жыве па-за межамі Латвіі прапануем падпісацца на штотыднёвік Народнага Фронту Латвіі —

## АТМОДА

Кошт аднаго нумара — 20 кап. плюс перасылка.
Заказы направляць па адрасу:

РИГА, 226015, СТИЕБРУ, д.5, кв.52.
УСИКУ ВЛАДИМИРУ.

А таксама на часопіс беларуска-украінскай незалежнае думкі —

## ВОЛЯ

Які будзе выдавацца са жніўня гэтага году. Сабекошт аднаго нумара прыблізна што 80 кап. Адрас:

РИГА, 226015, ЭММАС-3, к.93.
ПРОСКУРНЯ АРКАДИЙ.

. . . . . . . . . . . . . . .

Хрысьціянская секцыя ЗБМЛ (згуртаваньня беларускай моладзі Латвіі) "ВОЛЯ" дасылае зацікаўленным асобам рэлігійную літаратуру наложаным плацяжом. Адрас:

РИГА, 226059, КАСТРАНЕС, 1/2, к.163
НЕПОМЯЩИЙ Ю.Б.
(хрысьціянская і крышнаіцкая літ.)

. . . . . . . . . . . . . . .

Прасьветны Кааператыў "КУЛЬТУРА І ПРАЦА" пры ЗБМЛ "ВОЛЯ" дапамагае беларускаму жыхарству Латвіі ў набыцьці беларускіх кніжак, а таксама латыскаму жыхарству Беларусі ў набыцьці латыскіх кніжак. Адрас для заказаў:

РИГА, 226006, БУРТНИЕКУ, 2а, к.229
РОМАНЮК ЗИНАИДА.

. . . . . . . . . . . . . . .

БТК "СЬВІТАНАК" абвяўляе набор у дзіцячую студню выяўленчага мастацтва "ВЯСЁЛКА"(выкладаньне на беларускай мове). Адрас: ЛЕНИНА-40, к.20м.

АНДРЭЙ ГУЦАЎ "ЕЙ"

Ты — зямля курганоў і пушчанскага сну
Больны вецер — бунтар тут забыўся разлогі;
Па касьцёлах старых кінуў люд старыну,
І гніюць у балотах дрымучыя богі.

Ты інакшы цяпер — старадаўні народ.
Не разгледзеўшы прыняў братэрскую ласку —
І ня чуеш, ня чуешь, як кліча цябе у паход
Гнеў Пагоні на сёньняшніх хціўцаў нянаскіх.

Ці ж ня ганьба табе так змаўчаць на зямлі
І ня ведаць што твар твой аплёган?
Дзе твой гнеў і запал? Вочы раскрыеш калі?
Толькі слых заняло, адняло табе мову...

Толькі вецер - бунтар тут забыўся дарог,
Веча памяці зноў абнядолена звонам.
Толькі нейдзе загінуў твой Помсьлівы Бог,
Не пакінуўшы нават праклёну...

Ты — зямля курганоў і пушчанскага сну,
Я стаю пасярод твайго болю і гоняў.
Мы з табою яшчэ прычакаем вясну,
Мы з табою яшчэ не загінем сягоньня.

• • •

ЯЖЭВІЧ АЛЕСЬ

"РЭЧАІСНАСЬЦЬ"

Сябры, цьвяроза глянем на жыцьцё --
Пляўузганьням пра рай ня будзе месца:
Навокал гвалт, хлусьня і забыцьцё,
У душах -- вецер, людзі — цеста.

У вушы дзьмуць -- галоснасьць, сацыялізм,
А сьледам -- штрафы на 5 тысёч і астрог.
Ёсьць бог -- ні задушыў мой Край царызм,
І расцуглянных бюракратаў возьме бог.

Ў Саюзе мы, і зь іім мы сольнасьць
Прэзэньцім ці ня ўсёй зямлі...
А дома... Мове, нават роўнасьць
Сярод сясьцёр ні здабылі.

Нам ні забыць такі сацыялізм,
Калі цынізм малёг на стол закону,
Як мову матчыну бясчэсьціў шавінізм,
Забраў сьвятыні: сьцяг, "Пагоню".

Будуем камунізм з граніту й сталі --
Ужо далёка ў сьвеце бачны мур.
Там ад Эўропы і ад сьвету нас хавалі
Будуй -- і ўсё! А жыць калі?-- Алюр!

Заўваж сябе, прачніся, мой народзе,
Пад бел-чырвона-белым руш да зор!
Эўропе дай руку, пляваццa годзе,
У сузор'і ўсіх культур тчы Беларусі ўзор!

• • •

Рэдакцыя "Голас Беларуса" вельмі ўдзячна Ігару Мікалаевічу Кручонку зь Менску, які даслаў да нас верш Ул.Казлоўшчыка, надрукаваны ў Беларускім гаспадарчым каляндары "РОЛЬНІК" на 1931г. Выдав. У.Знамяроўскага, Вільня, 1930г.
Прапануем гэты верш шаноўным чытачам і спадзяемся на тое, што гэты ліст не апошні.

"ДА СТАРОНКІ"

Старонка, родная ты маці,
Калі ты вырвешся з акоў?
Калі ты будзеш сьвяткаваці
Шчасьліву волю ўсіх сыноў?

Калі звон Полацкай Сафіі
Загудзіць вольны над табой,
І сьцяг наш бел-чырвона-белы
Акрые ўсю цябе сабой.

Калі распутае Пагоню
Дух -- рыцар слаўны і сьвяты,
Прамчыцца віхрам над табою
І крыкне громам: "Ўстаць, браты!"

## У ГУШЧАРАХ

войсковая паходная песьня

Словы Н. Арсеньневай

*Tempo di marcio.* паходна — муз. М. Шчаглова




























1. У гушчарах, затканых імглою
Шэрым зморкам на зорку зару
Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час,
Беларусь.

2. І няма у сэрцах жалю, ці страху,-
Мы адвагай юнацкай гарым
Не маскаль, бальшавік і ня ляхі,
Але ты нас вядзеш да зары.

3. Хмарай дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быльлём,
Беларусь, Бела усь залатая
За Цабе мы ідзём, мы ідзём.

